ГАЗЕТА З БЕЛАРУСІ

# ГОЛАС РАДЗІМЫ

ВЫДАЕЦЦА З 1955 ГОДА ● ● NO.26 (3146) ● ● ЧАЦВЕР, 16 ліпеня, 2009

ШТОТЫДНЁВІК "ГОЛАС РАДЗІМЫ" МОЖНА ЧЫТАЦЬ У ІНТЭРНЭЦЕ: WWW.GOLAS.BY













# Дух баявога братэрства

## Сустрэча ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны краін СНД і далёкага замежжа прайшла ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны

**Дар'я Пятровіч**

Сустрэча была прымеркавана да святкавання 65-й гадавіны вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Гасцей з Вялікабрытаніі, Францыі, Германіі, Ізраіля, Эстоніі, Літвы, Латвіі пазнаёмілі з экспазіцыяй музея і стацыянарнымі выставамі цыкла "Беларусь. Трыумф пераможцаў": "Беларусь партызанская", "Трафеі вайны", "Бітва за Беларусь", створаных па матэрыялах фондаў музея.

Наведвальнікі ўбачылі арыгінальную калекцыю партызанскіх рукапісных часопісаў, якія паступілі ў музей са дня яго адкрыцця ў 1944 годзе, трафейную зброю і мэблю, маляўнічыя і графічныя работы беларускіх мастакоў на партызанскую тэматыку. Заключным акордам сустрэчы стаў паказ дакументальнага мультымедыйнага фільма "Аперацыя Багратыён".



БЕЛТА

У музеі ветэраны з розных краін ўзгадалі векапомныя дні

# Яны змагаліся разам

**У Варшаве адбылося ўрачыстае ўручэнне польскім ветэранам юбілейных медалёў у гонар 65-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў**

Удзельнікаў вайны вітаў пасол Беларусі ў Польшчы Віктар Гайсёнак. Дыпламат расказаў, што адчувае вялікую павагу да польскіх ветэранаў, якія не шкадавалі сабе для таго, каб сёння было мірнае жыццё. Сярод узнагароджаных юбілейным медалём быў Раман Ягела-Ягель, які нядаўна прыляцеў у Варшаву з Мінска, дзе прымаў удзел ва ўрачыстасцях да Дня Незалежнасці і 65-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. "Я быў у Беларусі па запрашэнні кіраўніка беларускай дзяржавы. Бачыў натхнёны беларускі народ, радасць у вачах людзей", — падзяліўся ён уражаннямі. Раман Ягела-Ягель з зямлёй Беларусі звязаны уласнай крывёй. У 1943 годзе ў баях пад Леніна, што ў Магілёўскай вобласці, ён быў паранены, але, к шчасцю, выжыў. І вось сёлета адзначае блізкае да сябе свята.

# Зямляцтва пачынаецца з цёплых успамінаў

## Беларуская дыяспара ў алтайскім Барнауле не губляе духоўнай сувязі з айчынай



Барнаульская суполка беларусаў захоўвае нацыянальныя традыцыі

**Дзмітрый Альфер**

Соф'я Васільеўна Антоненка на Алтаі жыве больш за паўстагоддзя. Яшчэ ў сярэдзіне 1950-х бацькі паехалі асвойваць цалінныя сібірскія землі. Той час у памяці тады яшчэ маленькай дзяўчынкі, малодшай з шасцярых дзяцей, не адкладся. Гэта потым, у сталым узросце прыйшло разуменне: разбураны вайной Старадарожскі раён Міншчыны сям'я вымушана пакінула ў пошуках заробку. Мілая сэрцу бацькаўшчына засталася за тысячу кіламетраў на захадзе, але ўспаміны пра яе ніколі не згасалі. З узростам настальгія, а па-іншаму гэты таемны смутак аб радзіме не назавеш, толькі разгортвалася ў душы. І нарэшце два гады таму арганізавала Соф'я Васільеўна беларускае зямляцтва на Алтаі.

Сярод рускіх, казахаў, немцаў і іншых народаў, якія жывуць у гэтым краі вялікай сям'ёй, нашыя суайчыннікі займаюць ганаровае месца. Іх на Алтаі паважаюць. Як падаецца, ва ўласным зямляцтве беларусы даўно мелі патрэбу. У суседніх сібірскіх рэгіёнах падобныя аб'яднанні ўжо былі створаны, тады як дыяспара ў Барнауле толькі разгортвала дзейнасць. Стварэнне нацыянальнай суполкі — працэс доўгі, складаны. Але Соф'я Антоненка адчувала, што ініцыятыву падтрымаюць. І цяпер на прыкладзе яе работы можна ўявіць, як праходзіць станаўленне дыяспары ўвогуле. → Стар. 2

ВЕСТКІ

# Кнігалюбы сустрэнуцца ў Смаргоні

**Жанна Кажамякіна**

**Тэматычная кніжная пляцоўка да 65-годдзя вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў будзе разгорнута ў Дзень беларускага пісьменства**

Дзень беларускага пісьменства, 16-ы па ліку, сёлета мае гонар 6 верасня прымаць горад Смаргонь Гродзенскай вобласці. Дарэчы, у гісторыі Смаргоншчыны ёсць старонка, якая расказвае пра жыццё заснавальніка беларускай літаратуры Францішка Багушэвіча ў вёсцы Кушляны, дзе ў сядзібе паэта размясціўся музей — філіял Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры. Плануецца, што асобныя мерапрыемствы Дня беларускага пісьменства пройдуць і ў музеі-сядзібе паэта, дзе ён правёў апошнія дні свайго жыцця. А ў Смаргоні запланавана адкрыццё помніка Францішку Багушэвічу. Чакаецца, што да Дня беларускага пісьменства ўбачыць свет факсімільнае выданне "Дудкі беларускай" Багушэвіча.



Кнігі – цікавая рэч

У Дзень беларускага пісьменства традыцыйна адкрываецца вялікая кніжная экспазіцыя. Кнігі, выпушчаныя за папярэдні год, выданні – лаўрэаты конкурсаў "Мастацтва кнігі", дзіцячая літаратура і ў гэты раз будуць шырока прадстаўлены на свяце. Прэзентацыі кніг, выдавецтваў, творчыя сустрэчы з аўтарамі пройдуць у гэты дзень. А на круглым стале збяруцца беларускія пісьменнікі і іх госці з розных краін, каб абмеркаваць магчымасці супрацоўніцтва, развіцця кантактаў і распаўсюджвання сучаснай літаратуры. На свяце адбудзецца ўручэнне ўзнагарод пераможцам конкурсу "Мастацтва кнігі", які не так даўно назваў лепшых па выніках выдавецкай дзейнасці ў мінулым годзе, і прэмій Саюза пісьменнікаў Беларусі.

# Зямляцтва пачынаецца з цёплых успамінаў

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

Сёння ў краі па афіцыйных звестках жывуць больш за восем тысяч землякоў. Але на самой справе іх больш, бо некаторыя маладыя людзі часам не могуць вызначыцца, да каго сябе аднесці — да беларусаў ці рускіх. І гэта, бадай, яшчэ адна прычына, якая падштурхнула спадарыню Антоненка аб'яднаць суайчыннікаў. Не забывацца пра сваю малую радзіму, яе культуру, расказваць людзям пра іх карані — мэта, якую паставіла перад сабой жанчына. Кажуць, што менавіта пачатак вызначае поспех справы. Так, напэўна, і ёсць. "Як толькі беларусы пачулі, што ў Алтаі з'явілася зямляцтва, то адразу ж схамянуліся. Пачалі тэлефанаваць, распытваць. Сталі прыносіць да мяне рэчы, якія яшчэ іх бацькі прывезлі сюды на памяць аб Беларусі — кнігі, ручнікі, абрусы, покрывы. У выніку, "экспанатаў" назбіралася на невялікую выставу. Калі ў Расіі адзначаецца Дзень адзінства, мы яе паказваем, — кажа Соф'я Антоненка ў час нашай сустрэчы ў таварыстве "Радзіма" ў Мінску. — І жыхары горада, як толькі сустракаюць нас на свяце, адразу ж згадваюць: "А я служыў у Беларусі, а ў мяне там сябры, родныя". Потым падыходзяць да карты і з задавальненнем шукаюць месцы, якія яны наведвалі".

Сама ж Соф'я Васільеўна пастаянна ездзіць на бацькаўшчыну. І заўсёды пасля такой паездкі яна прывозіць дыскі з беларускай музыкай, зборнікі песен, паэтычныя выданні. Зямляцтва пашыраецца — не так даўно яго кіраўнік атрымала ад мясцовых улад невялікі грант, які дазволіць гэтай восенню правесці на Алтаі фестываль нацыянальнай культуры. Падтрымаць суайчыннікаў прыедуць і беларусы з Томска, Новасібірска. Чакаецца, што не толькі прадстаўнікі дыяспары, але і іншыя жыхары Барнаула прыйдуць на канцэрты, каб атрымаць асалоду ад нацыянальнай музыкі, танцаў, спеваў. Такім чынам, зямляцтва паступова пашырае дзейнасць. Для яго ўжо сталі пастаяннымі сустрэчы, на якіх ва ўсёй разнастайнасці вывучаецца культурная спадчына — творчасць пісьменнікаў, народныя песні, традыцыі... На кожны месяц складзена асобная праграма. Соф'я Антоненка прызнаецца, што шмат чаго, канешне ж, залежыць і ад матэрыяльнай падтрымкі. Ці знойдзецца магчымасць, напрыклад, для выдання ўласнай газеты для беларусаў Алтая? Жадаюць суайчыннікі арганізаваць і музычна-фальклорны калектыў. Але гэта ўсё — планы на будучае. Дарэчы, падтрымаць іх выказаў жаданне адзін з мясцовых прадпрымальнікаў, які стварае ў горадзе цэнтр па вывучэнню і развіццю славянскай культуры, і ўжо запрасіў беларусаў далучыцца да гэтай работы.

А каб планы спраўдзіліся хутчэй, дыяспара пастаянна імкнецца прыцягваць у свае шэрагі як мага больш моладзі. "Трэба, каб наша культура перадавалася ад людзей сталага ўзросту да іх дзяцей і ўнукаў", — лічыць Соф'я Антоненка. Таму зямляцтва імкнецца арганізаваць школу па вывучэнню роднай мовы, а разам з ёй — гурткі традыцыйных народных рамёстваў. Так, пакуль гэта мара алтайскіх беларусаў. Але, падаецца, яны яе здзейсняць.



Беларуская дыяспара пастаянна бярэ ўдзел у гарадскіх святах у Барнауле

# Дамовіліся аб пабрацімстве

Сяргей Кулягін

**У Магілёўскім гарвыканкаме падпісаны дагавор паміж гэтым абласным цэнтрам і азербайджанскім горадам Сумгаіт**

Як адзначыў на ўрачыстай цырымоніі старшыня Магілёўскага гарвыканкама Віктар Шорыкаў, падпісанне гэтага дагавора з'яўляецца лагічным працягам дыялогу аб супрацоўніцтве. Так, у 2007 годзе быў падпісаны пратакол аб намерах, у маі 2008-га — дагавор аб усталяванні і развіцці гандлёва-эканамічных, навукова-тэхнічных і культурных сувязяў, а ўжо ў чэрвені дэлегацыя горада Сумгаіта прыняла ўдзел у святочных мерапрыемствах, прысвечаных Дню горада Магілёва.

"Усталяванне пабрацімскіх сувязяў будзе спрыяць развіццю шматбаковых адносін паміж нашымі гарадамі, умацаванню сяброўства паміж беларускім і азербайджанскім народамі. Сёння мы маем узаемную цікавасць у развіцці гандлёва-эканамічных, навукова-тэхнічных, гаспадарчых сувязяў, маем намер умацоўваць супрацоўніцтва ў галіне культуры, спорту, адукацыі, аховы здароўя", — адзначыў Віктар Шорыкаў.

Дарэчы, аснову экспарту ў Азербайджан складаюць ліфты вытворчасці прадпрыемства "Магілёўліфтмаш". З Азербайджана традыцыйна імпартуюцца тканіны і гатовыя тэкстыльныя вырабы, дэкаратыўная прадукцыя, прадукты раслiннага паходжання.

# Партнёрскія сувязі дапамагаюць у справе

## Мінская вобласць і зямля Брандэнбург будуць супрацоўнічаць у сферы альтэрнатыўнай энергетыкі




Ветраўстаноўкі ў Беларусі выкарыстоўваюцца ўсё часцей

Надзея Радзівонава

У Мядзельскім раёне вобласці ўжо пабудавана адна з першых у Беларусі ветраўстановак. Ёсць і іншыя месцы, дзе магчыма развіццё ветраэнергетыкі. "Для нас гэта сфера цікавая", — адзначыў старшыня Мінаблвыканкама Леанід Крупец.

У сваю чаргу дзяржаўны сакратар урада федэральнай зямлі Брандэнбург, упаўнаважаны зямлі пры федэрацыі і па пытаннях еўрапейскага супрацоўніцтва Герд Хармс паведаміў, што ў Германіі шырока развіта выкарыстанне альтэрнатыўных крыніц энергіі — гэта і энергія ветру, і сонцы, біямасы. 40 працэнтаў выкарыстанай энергіі прыходзіцца на крыніцы, якія аднаўляюцца. "Мы маглі б падзяліцца вопытам у гэтай сферы і рэалізаваць сумесныя праекты", — адзначыў Герд Хармс.

На думку Герда Хармса, перспектыўнымі накірункамі супрацоўніцтва могуць стаць таксама сельская гаспадарка, абмен вопытам паміж навукова-даследчымі інстытутамі, сумесныя адукацыйныя праграмы, аграэкатурызм.

Леанід Крупец лічыць, што Мінская вобласць і федэральная зямля Брандэнбург маюць агульныя тэндэнцыі эканамічнага развіцця. Цікавы, на яго погляд, вопыт Брандэнбурга ў такіх сферах, як транспарт і лагістыка, паколькі Мінская вобласць — цэнтральная ў рэспубліцы, што стварае перадумовы для развіцця транспартна-лагістычнай сферы.

"Усталяванне партнёрскіх сувязяў дазволіла б не толькі арганізаваць абмен вопытам двух прысталічных рэгіёнаў, але і спрыяла б вырашэнню агульных праблем і ажыццяўленню агульных праектаў. Гэта інвестыцыйнае супрацоўніцтва, стварэнне сумесных прадпрыемстваў, выкарыстанне адзіных стандартаў па транспартна-лагістычнаму абслугоўванню, развіццё прыдарожнага сэрвісу", — адзначыў Леанід Крупец.

Дарэчы, Германія з'яўляецца адным з асноўных гандлёвых партнёраў Мінскай вобласці. За студзень-красавік 2009 года знешнегандлёвы абарот сталічнага рэгіёна з ФРГ склаў 100 мільёнаў долараў.

# Аматарам падарожжаў

**Першая музейная карта з'явілася ў Полацку**

Па сутнасці, гэта шматразовы білет, па якім можна наведаць з дзесятак музеяў. На асабовым баку білета намаляваны план Полацкага езуіцкага калегіума з гравюры 1785 года і скульптура архангела Міхаіла з Полацкага Сафійскага сабора. На адваротным баку — выява помніка беларускаму князю Усяславу Брачыслававічу, які ўвайшоў у гісторыю пад імем Усяслаў Чарадзей. Там жа змешчаны спіс месцаў, на якія распаўсюджваецца дзеянне карты — гэта ўсе музеі Нацыянальнага Полацкага гісторыка-культурнага музея-запаведніка.

Першыя білеты ўжо сталі не толькі пропускам да знаёмства са старажытным горадам, але і сапраўднымі сувенірамі. Цяпер рыхтуецца да выпуску наступная іх серыя. Яе можна будзе набыць у любым з полацкіх музеяў.

Дарэчы, турыстычныя цэнтры ў Еўропе і Азіі даўно выкарыстоўваюць падобную карту. У Беларусі да нядаўняга часу такі вопыт не выкарыстоўваўся, аднак з развіццём уязнога турызму стварэнне шматразовага білета стала неабходнасцю. Рэалізацыя праекта музейнай карты Полацка стала магчымым дзякуючы беларуска-шведска-латвійскаму праекту "Панарама Дзвіна/Даўгава".

# Народжаны для неба

Таццяна Грынкевіч

**У аддзяленнях паштовай сувязі краіны з'явіўся новы канверт, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння двойчы Героя Савецкага Саюза Сяргея Грыцаўца**



Гашэнне канверта спецыяльным штэмпелем з юбілейным малюнкам прайшло ў адным з гарадскіх паштовых аддзяленняў Баранавічаў. Непадалёк ад гэтага горада 6 ліпеня 1909 года нарадзіўся славуты лётчык.

Першы юбілейны канверт загасіла Ларыса Архангельская — дачка лётчыка-героя, якая прыехала па запрашэнні Міністэрства абароны разам з мужам, дачкой і ўнукам, названым Сяргеем у гонар прадзеда.

Госці пабывалі ў мясцовым краязнаўчым музеі, дзе днямі адкрылася выстава, прысвечаная юбілею знакамітага земляка. На ёй, дарэчы, экспануюцца і асабістыя рэчы двойчы Героя Савецкага Саюза Сяргея Грыцаўца, перададзеныя ў музей Ларысай Сяргееўнай: лётная маска, аўтаматычны аловак, прывезены з Іспаніі...

# Даследчык роднага краю

## Споўнілася 195 гадоў з дня нараджэння Яўстафія Тышкевіча

Ганна Карпечанка


Яўстафій Тышкевіч


Экспазіцыя Віленскага музея старажытнасцяў, якая была створана на аснове збораў Я. Тышкевіча ў Лагойску. Літаграфія сярэдзіны XIX ст.

Наш зямляк, вядомы ў свеце археолаг, этнограф, краязнавец, нарадзіўся 6 (18) красавіка 1814 года ў Лагойску. Пачатковую адукацыю, як было прынята ў той час у дваранскіх сем'ях, ён атрымаў дома, у палацы, акружаным легендамі і паданнямі, пад наглядам маці. Багатая бібліятэка, хатняя калекцыя, у тым ліку старадаўніх рукапісаў і рэчаў, родавы архіў, расказы бацькоў спрыялі выхаванню будучага дзеяча навукі.

Пасля заканчэння мінскай гімназіі Яўстафій накіроўваецца ў Пецярбург, дзе працуе ў канцылярыі пры сенаце Расійскай імперыі. У 1835 годзе пераводзіцца ў канцылярыю Віленскага генерал-губернатара, а праз нейкі час — у Харкаў, дзе атрымоўвае чын губернскага сакратара. Там ён працуе ў архівах, бібліятэцы Харкаўскага універсітэта, наведвае Кіеў. А ў 1840 годзе выходзіць у адстаўку і вяртаецца ў Лагойск. Яўстафія Тышкевіча абіраюць ганаровым куратарам вучылішчаў і прадвадзіцелем дваранства Барысаўскага павета.

З маладых гадоў увагу Яўстафія Тышкевіча прыцягвалі помнікі даўніны Лагойшчыны. Свае археалагічныя пошукі ён пачаў з раскопак курганоў, надаючы ім значэнне крыніц у даследаваннях. Пошукавую дзейнасць праводзіў у Барысаўскім павеце, па ўсёй Мінскай губерні, Падзвінні і ў іншых месцах, набываў вопыт у аналізе знаходак, іх класіфікацыі. Першым даў адказы на многія пытанні археалогіі, заклаў фундамент гэтай навукі ў Беларусі, актыўна прапагандаваў ідэю навуковых кантактаў з археолагамі іншых краін. У 1843 годзе ён падарожнічаў па краінах Скандынавіі, дзе працаваў у архівах і бібліятэках, пазнаёміўся з навукоўцамі, музеямі, адшукаў невядомыя звесткі аб дзеяннях Карла XII на беларускіх землях. Усе свае знаходкі і адкрыцці, зробленыя падчас вандроўкі, апісаў у працы "Лісты са Швецыі" (1846).

Адначасова з археалогіяй Яўстафій займаецца фалькларыстыкай. Як спрактыкаваны даследчык сляды жыцця даўніх плямён у краі ён бачыў у таямніцах, старадаўніх помніках фальклору, этнаграфіі. Вынікам дзесяцігадовых пошукаў стала праца "Апісанне Барысаўскага павета", якую сучаснікі назвалі "выдатным здабыткам беларускай даследчыцкай думкі XIX стагоддзя".

Тышкевіч ведаў пра стан навукі ў замежных краінах. У Вільні ж пасля закрыцця універсітэта навуковага цэнтра ўвогуле не было, што падштурхнула яго да думкі стварыць там навуковае таварыства, агульнадаступны музей, публічную бібліятэку, заняцца выдавецкай дзейнасцю. Ідэя стварэння музея стала ўвогуле мэтай яго жыцця. І першы з іх быў адкрыты ў 1842 годзе ў Лагойску, у родавым палацы, на падставе сямейных збораў і рэчаў, здабытых у час раскопак курганоў. Шмат сіл і часу, уласных калекцый і сродкаў спатрэбілася і на стварэнне музея ў Вільні. Настойлівасць і энтузіязм Яўстафія, падтрымка родных, сяброў, добраахвотныя ахвяраванні спрыялі таму, што Віленскі музей старажытнасцяў, узначалены Тышкевічам, быў урачыста адкрыты на Новы, 1856 год у будынку Віленскага універсітэта. Там жа была створана Археалагічная камісія, старшынёй якой аднагалосна абралі Яўстафія Тышкевіча.

Як вядомы навуковец Яўстафій быў абраны ганаровым членам Акадэмій навук у Пецярбургу, Стакгольме і навуковых таварystваў у Капенгагене, Лондане, Рызе, Кракаве, Кіеве, Маскве. Скончыў свой век Яўстафій Піевіч Тышкевіч 20 жніўня 1873 года ў Вільні, пахаваны на Літаратурнай горцы могілак Роса.

# Тракельская святыня

Іосіф Папко

**Ватыкан прызнаў ікону Маці Божай з сельскага храма цудатворнай**

Каранацыя іконы прайшла падчас нядзельнай імшы ў касцёле вёскі Тракелі Воранаўскага раёна Гродзенскай вобласці. Выканаў волю Папы Рымскага Бенядзікта XVI і ўсклаў залатую карону на ікону кардынал Казімір Свёнтэк. Цырымонія праходзіла ў прысутнасці тысяч веруючых з усіх куткоў Беларусі, а таксама з іншых дзяржаў.

Перш, чым быў атрыманы дазвол на каранацыю ад Папы Рымскага, збіраліся дакументальныя доказы цудатворнасці гэтай іконы. У парафіяльных хроніках такія факты зафіксаваны. Ёсць пасведчанні некалькіх цудоўных вылячэнняў. Да цырымоніі каранацыі былі падрыхтаваны і асвечаны 16 копій іконы Маці Божай Тракельскай. З сярэдзіны мая, рыхтуючыся да ўрачыстасці, іх вазілі па парафіях Гродзенскай епархіі.

Тракельскі абраз стаў трэцяй у епархіі каранаванай іконай Багародзіцы. У 2005 годзе была каранавана ікона Маці Божай Кангрэгацкай у Гродне, а два гады таму — ікона ў Гудагаі Астравецкага раёна.


Падчас каранацыі іконы

# Ягамосць рукапісны дакумент

Адам Мальдзіс

**У старажытныя часы да дакументаў, асабліва калі гэта быў прывілей, калі ён быў падпісаны каралём, канцлерам ці маршалкам, замацаваны "віслымі" пячаткамі, ставіліся з павагай, перадавалі яго з пакалення ў пакаленне. Як і асобу, што падпісала яго, дакумент называлі Ягамосцем.**

Цяпер дакумент можа быць розны — і друкаваны, і віртуальны. А раней, у часы Вялікага княства Літоўскага і аж да XX стагоддзя, ён быў толькі рукапісны. Праўда, часам друкаваліся кніжачкамі прамовы ў сеймах, сеймиках і судах, "плачы" пры пахаваннях знакамітых асоб. Але сёння такія дакументы часу захоўваюцца ўжо не ў архівах, а ў бібліятэках.

І яшчэ адна акалічнасць. Наколькі я заўважыў, у пэўнай часткі нашага насельніцтва ёсць непаважлівыя адносіны да архіўных рукапісаў. Але ўявіце сабе, што здарылася б, калі б зніклі архівы. Мы нічога (ці амаль нічога) не ведалі б пра сваё гістарычнае мінулае. А наступныя пакаленні мелі б вельмі прыблізныя ўяўленні пра нас. Па гэтых і іншых прычынах пры Міністэрстве юстыцыі Беларусі дзейнічае Дэпартамент па архівах і справаводству, выдаецца квартальнік "Архівы і справаводства", існуе грамадская Археаграфічная камісія, да якой і я маю гонар належаць.

Вынікі працы архівістаў краіны, акрамя афіцыйных справаздач, падводзяцца таксама на штогодніх пасяджэннях Археаграфічнай камісіі. На апошнім, у дакладзе кіраўніка Дэпартамента Уладзіміра Адамушкі, выступленнях прадстаўнікоў абласных і занальных архіваў, ішла гаворка пра несумненныя поспехі ў дадзенай сферы. А гэта і новыя кнігі (пра адну з іх пойдзе гаворка далей), і цікавыя знаходкі, і плённыя міжнародныя кантакты. Няма зборнікаў архіўных матэрыялаў выдаецца супольна з расійскімі, украінскімі, польскімі, нямецкімі калегамі. Вядзецца віртуальны абмен дакументамі. Так, з Масквы, дзякуючы дапамозе Нацыянальнай камісіі па справах ЮНЕСКА Рэспублікі Беларусь, паступіў вялікі збор рукапісаў дзяржаўнага дзеяча і кампазітара Міхала Клеафаса Агінскага, два дзесяцігоддзі "прапісанага" ў Залессі, што паміж Маладзечнам і Смаргонню. А немцы гатовы нам перадаць цэлы фонд, звязаны з родам Радзівілаў.



Грамата ад 1391 года – найстарэйшая ў Беларусі

Плён міжнародных кантактаў беларускіх археографаў знайшоў адлюстраванне ў чарговым, сёмым выпуску навуковага зборніка "Архіварыус" (2009). Як характэрны прыклад, у ім называлася публікацыя кандыдата гістарычных навук Вольгі Гарбачовай "Дзейнасць Ігнація Дамейкі ў Таварыстве навуковай дапамогі ў Францыі". Знаходзячыся ў Парыжы, аўтар засяродзіла там увагу над пошукам і апрацоўкай матэрыялаў пра нашага славутага суайчынніка, ураджэнца Медзвядкі цяперашняга Карэліцкага раёна, які потым стаў нацыянальным героем Чылі. У выніку аказалася, што Ігнацій Дамейка разам са сваімі землякамі і сябрамі паэтам Адамам Міцкевічам, мастаком і кампазітарам Напалеонам Ордам імкнуўся палегчыць жыццё іншым выхадцам з беларускіх зямель, якія апынуліся на чужыне пасля паўстання 1831 года. З забыцця паўстаюць факты, імёны.

На прэзентацыі кнігі гаварылася, што зарубежных навукоўцаў безумоўна зацікавяць таксама яе матэрыялы "Крыніцы па гісторыі роду кн. Радзівілаў ў архіве і бібліятэках Познані (Польшча)" Вольгі Папко, "Лісты маладых князёў Алелькавічаў з Італіі" Анастасіі Скеп'ян, "Род галандскіх дваран Гартынгаў на Беларусі" Вадзіма Урублеўскага, "Дзённік падарожжаў Э. Гендэрсона як крыніца па гісторыі Беларусі першай чвэрці XIX ст." англійскага славіста (скарыназнаўца) Юрыя Снапкоўскага. Спецыяльна паўтараю гэты пералік для нашых зарубежных чытачоў, бо ведаю, як нялёгка даецца ім пошукавая бібліяграфічная інфармацыя.

Аднак што датычыцца мяне як чытача, то найбольшую цікавасць у зборніку выклікалі даведачны публікацыі тыпу "Малы гербоўнік Рагачоўскай шляхты" Зміцера Яцкевіча ці "Спіс шляхты Магілёўскай губерні за 1783–1784 гг." Яўгена Анішчанкі. Спачатку падумалася: ну што можа даць "голы" пералік прозвішчаў і імёнаў землеўладальнікаў шляхецкага саслоўя? Але потым успомнілася, што нябожчык Уладзімір Караткевіч калісьці па-сяброўску хваліўся шляхецкім паходжаннем свайго роду і адначасова шкадаваў, што няма таму канкрэтных доказаў… І (вось узрадаваўся б ён!) знаходжу, што ў вёсках Караткія, Струмень, Багданавічы і Салтанаўка пражывала ажно 26 землеўладальнікаў Караткевічаў мужчынскага полу. Прыгонных у іх падпарадкаванні не было. Толькі зямля. Значыць, як і сяляне, жылі з працы сваіх рук. Але ўсё ж былі вольнымі, маглі вучыцца… Тое ж можна сказаць пра род Багдановічаў (31 "саўладальнік сяла"), Грамыкаў (тых у сяле Грамыкі аказалася ажно 80, і адзін з іх, відаць, быў продкам вядомага савецкага дыпламата). І гэтак далей.

# Шэдэўры нараджаюцца ў Жыровічах

## Разьбяр Андрэй Малажавы працягвае мастацкую традыцыю XVII стагоддзя, ствараючы іканастасы для цэркваў у сваёй краіне і нават у далёкім замежжы

**Віктар Корбут**

У 1470 годзе пастухі з вёскі Жыровічы, што пад Слонімам, пабачылі дзіва: ззянне між усыпаных цветам галінаў дзічкі. Падышоўшы бліжэй, яны знайшлі каменны абразок. Лічыцца, гэта Маці Божая пакінула свой след на зямлі. З XVII стагоддзя тут стаіць мураваны манастыр. А ў 1730 годзе сам пантыфік даслаў з Рыма дзве залатыя кароны, якімі на іконе былі ўвянчаны выявы немаўляці Ісуса і яго святой Маці. Але мала хто ведае, што шыкоўныя шаты, якія "абгортваюць" жыровіцкі абраз, зрабіў сучасны майстар Віктар Малажавы. Зрэшты, не толькі гэты шэдэўр належыць яму.

Віктар Фёдаравіч Малажавы быў адным з першых разьбяроў у краіне з тых, хто яшчэ ў канцы 80-х – пачатку 90-х гадоў пачынаў працаваць на аздабленні храмаў. Тады цэрквы вярталі вернікам і вельмі востра стаяла пытанне: чым упрыгожыць пустыя залы. На жаль, прадметы інтэр'ера многіх храмаў былі страчаны ў ранейшыя часы. Цяпер справу бацькі па адраджэнні колішняй велічы дамоў Божых працягвае сын Андрэй Малажавы. Лёс так распарадзіўся, што з роднага Камянца ён перабраўся ў Жыровіцы — нібыта па слядах творчага шляху Віктара Фёдаравіча. Ужо дзесяць год Малажавы-малодшы працуе разьбяром, набыў вядомасць і ў нечым нават перасягнуў бацьку.

Рукі Андрэя выразалі з дрэва для людзей больш за сотню твораў дэкаратыўна-прыкладнога храмавага мастацтва. Праўда, па традыцыі сваіх імён стваральнікі царкоўных шэдэўраў не пакідаюць на зробленых імі рэчах. Гэта лічыцца нясціплым, а то і грахом — залішняй ганарыстасцю.

Аднак стыль Малажавага пазнае кожны, хто хоць раз пабываў у яго майстэрні. Андрэй любіць раслінныя матывы. Гэтым самым ён працягвае забытую на стагоддзі традыцыю беларускай разьбы па дрэве, якую некалі асабліва шанавалі ў суседніх краінах. Напрыклад, у XVII стагоддзі патрыярхі маскоўскія спецыяльна запрашалі беларускіх майстроў афармляць свае палацы, храмы. Дый цяпер прыходзяць заказы ад усходніх суседзяў. "Бо беларус зробіць якасна і танна", — з гонарам (і тут гэтае пачуццё абсалютна дарэчнае) за сябе і калегаў па цэху сцвярджае Андрэй.



Андрэй Малажавы даводзіць да ладу царскія вароты будучага іканастаса

Малажавы-малодшы працуе не адзін, а стварыў пры манастыры арцель. На рабочым стале ў майстэрні разьбяра я разглядаю эскізы іканастасаў для розных храмаў Беларусі, Расіі і нават краін далёкага замежжа.

— Так-так, у Заходняй Еўропе таксама ёсць праваслаўныя вернікі і цэрквы. І разьба, выкананая беларусамі, вельмі цэніцца сёння за мяжой, — запэўнівае спадар Малажавы.

Кожны яго твор з'яўляецца з благаславення святара.

— Свяшчэннікі, праўда, маюць розныя падыходы да таго, як мае быць аздоблены храм, у якім стылі, — тлумачыць асаблівасці работы ў цэрквах майстар. — Ёсць тыя святары, хто строга пільнуецца візантыйскага канона, — тады іканастас аздабляецца не вельмі багатай разьбой, акцэнт робіцца на абразах. Набраўшыся вопыту, я і сам магу падказаць настаяцелю, у якім стылі лепш выканаць аздабленне храма, дзе зрабіць акцэнт на тым або іншым дэкаратыўным элеменце, а дзе — на іконе.

Колькі ж часу трэба на тое, каб стварыць іканастас? Для маленькага храма майстар выража галоўную аздобу і за месяц, а для вялікага сабора можа працаваць ажно тры гады, дый не адзін ужо, а цэлаю камандай.

На першы погляд, разьба па дрэве — тытанічная праца. Але Андрэй так не думае:

— Калі добра абазнаны ў сваёй прафесіі — усё тое, што робіш, здаецца простым. Трэба мець добрыя інструменты і спрыт — і ўсё складанае становіцца элементарным.

А яшчэ трэба мець залатыя рукі, здаецца мне, бо работа разьбяра, які з дошак стварае непаўторныя вобразы, усё адно выглядае вялікай таямніцай. Андрэй тым часам на маіх вачах дэманструе сваю "геніяльна простую" тэхніку. Бярэ доўгія вузкія дошкі, склейвае іх у адну шырокую. Затым наносіць па драўляную аснову малюнак алоўкам. Эскіз гатовы. Андрэй бярэ разец і — о цуд! — лёгка выводзіць па дрэве ўзоры дзівосных кветак. Праз колькі гадзін такога "чаравання" паўстае шэдэўр — царскія вароты для іканастаса, якія неўзабаве ўпрыгожаць сабор у Смаргоні. Магчыма, калісьці гэтым творам будуць захапляцца не толькі вернікі, але і мастацтвазнаўцы ды эстэты. А работы Малажавага ўвойдуць у гісторыю нацыянальнага мастацтва гэтак жа, як сталі прадметам гонару творы ананімных майстроў XVII стагоддзя.

# Стратэгія віртуальнай перамогі паспрыяе ўсвядоміць гісторыю

**Рыма Ушкевіч**

**Камп'ютэрную гульню беларускіх распрацоўшчыкаў плануецца выкарыстоўваць на уроках у школе**

"Аперацыя "Баграціён", якую распрацавала беларуская кампанія Gamstream, прызнана лепшай стратэгічнай гульнёй 2008 года на Міжнароднай канферэнцыі распрацоўшчыкаў камп'ютэрных гульняў у Маскве.

Як адзначыў адзін са стваральнікаў гульні Уладзімір Кіслы, дагэтуль не існавала падобнай камп'ютэрнай стратэгіі, удзел у якой прымае да 2 тысяч адзінак віртуальнай тэхнікі. Ён паведаміў, што для яе стварэння прыйшлося дэталёва вывучаць мясцовасць, дзе адбываліся бітвы, звяртацца да дапамогі Беларускага дзяржаўнага музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, які кансультаваў у гістарычных і тактычных баявых пытаннях. У выніку праект быў адобраны Саветам ветэранаў, а Міністэрства адукацыі правяло чэмпіянат па камп'ютэрнай гульні сярод навучэнцаў.

Чэмпіянат праходзіў у два этапы, а завяршыўся 28 чэрвеня ў музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Яго пераможцам стаў гродзенскі школьнік Раман Лебядзінскі, які лічыць, што з дапамогай камп'ютэрнай стратэгіі "Аперацыя "Баграціён" можна вывучаць гісторыю Вялікай Айчыннай вайны.

Намеснік дырэктара музея Вячяслаў Казачонак не выключае магчымасці з'яўлення гульні ў інфармацыйна-камп'ютэрных класах сярэдніх школ.




Гульня "Аперацыя "Баграціён"

Гульня "Аперацыя "Баграціён" створана такім чынам, што перамагчы савецкія войскі прасцей, чым нямецкія. Уладзімір Кіслы адзначыў, што распрацоўшчыкі зрабілі гэта спецыяльна, каб стымуляваць іграка, які выбраў бок савецкіх войскаў, прыкласці больш намаганняў для перамогі.

## Дарогі, якія выводзяць у свет

**Аліна Громава**

**Беларускі мастак Вячаслаў Паўлавец атрымаў прыз глядацкіх сімпатый на конкурсе ў нямецкім горадзе Майнц**

Усяго ў конкурсе "Мастацтва ў горадзе" ўдзельнічала 17 мастакоў, двое з якіх з Майнца, астатнія — з сямі яго гарадоў-пабрацімаў, у тым ліку і з Мінска. Сёлета мастакі ў чатырнаццаты раз на віду ў гараджан, якія таксама маглі аддаць свае галасы за тыя работы, што спадабаліся, стваралі свае творы ў майнцкай вуліцы Аўгусцінаштрасе. Конкурс прысвячаўся тэме "Наш свет збліжаецца".

У выніку работа беларускага мастака Вячаслава Паўлаўца спадабалася гледачам больш за іншыя, і ён атрымаў прыз глядацкіх сімпатый. Дарэчы, у мінулым годзе прыз глядацкіх сімпатый таксама прыехаў у Мінск — яго заваявала Ксенія Бяляева.

Вячаслаў Паўлавец сёлета прадставіў на конкурс трыпціх, які паказвае беларускі рачны ландшафт з абцокамі, пейзаж ракі Рэйн з ледзь прыкметным сілуэтам крэпасці і рачную дарогу, што злучае іх. "Дарогі злучаюць людзей" — так ён назваў свой твор. Аўтар пракаментаваў яго такім чынам: "Як дарогі злучаюць людзей разам, так і свет можа аб'яднацца".

Цікава, што Вячаслаў Паўлавец яшчэ ў дзяцінстве цікавіўся малюнкамі прызнаных майстроў у Дрэздэнскай мастацкай галерэі, бо яго бацька — афіцэр савецкіх войскаў — нёс тады службу ў ГДР. З тых самых часоў мастак і займаецца жывапісам.

## Музычны каларыт

**Іван Архіпаў**

**З канцэрта ў мінскай філармоніі пачаўся восьмы Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур**

Сваё майстэрства паказваюць самадзейныя творчыя калектывы дыяспар, якія жывуць у Беларусі. А гэта — і рускі народны хор, і дзіцячы ансамбль афганскай песні, і азербайджанскі гурт "Габустан", танцоры з веерамі "Асацыі беларускіх карэйцаў", артысты тэатра цыганскай песні "Гіля Рамэн", тэатр "Сімха" са сваёй яўрэйскай песняй, танцоры армянскага фальклорнага ансамбля "Аястан".

Удзельнікі канцэрта здолелі праз музыку, спевы і танцы данесці да гледача нацыянальны каларыт сваіх традыцый. Дарэчы, кіраўнік Міжнароднага грамадскага аб'яднання "Русь единая" Міхаіл Ткачоў выказаў думку, што нідзе ў свеце няма такога магутнага фестывальнага руху нацыянальных культур, як у Беларусі.

Пасля ўрачыстага адкрыцця фестываля ў Мінску будуць арганізаваны раённыя і абласныя туры.

**Заснавальнік:** Рэдакцыя газеты «СБ»
**Рэдактар** Віктар Харкоў
**Адрас:** пр. Незалежнасці, 44, Мінск, 220005
**Тэлефон рэдакцыі:** +375 17 288—12—80; факс: +375 17 288—12—80
**Рэгістрацыйнае пасведчанне № 61**
**Бюро па рэкламе:** Тэл. +375 17 290—60—11
**E–mail:** golas_radzimy@tut.by
Газета надрукавана ў Рэспубліканскім унітарным прадпрыемстве «Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009.
Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск.
**Аб'ём выдання:** 1 друк. арк.
**Тыраж:** 2000
**Заказ:** 814
Пазіцыі рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", могуць не супадаць.
**© "Голас Радзімы", 2009**